У НУМАРЫ:

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

16 красавіка 1994 г.
Субота
№ 41(13758)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года




Малюе Віктар ДУБОВІК






*Раней, з надыходам вясны, хлапчукі па–заліхвацку "абкатвалі" свае веласіпеды. Часы мяняюцца, і цяпер на сельскіх і гарадскіх вуліцах разам з веласіпедыстамі "ганяюць" па сухіх дарогах "рокеры". Гэтыя хлопчыкі (на здымку) з горада Жлобіна таксама вырашылі асвоіць матацыкл.*

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### З дыпломам ВНУ – у свабоднае плаванне

*Днямі па Расійскім тэлебачанні паказвалі рэпартаж аб мітынгу студэнтаў у Чэлябінску, якім доўгі тэрмін не выплачваюцца стыпендыі. Акрамя таго, выпускнікі ВНУ гэтага горада заклапочаны і сваёй зусім бесперспектыўнай будучыняй — большасць з іх пасля заканчэння інстытута адпраўляюцца ў "свабоднае плаванне", не разлічваючы на дзяржаўнае размеркаванне.*

*А як жа ў Беларусі?*

Згодна з вынікамі апытання, якое правялі вучоныя інстытута сацыялогіі Акадэміі навук рэспублікі ў 12 дзяржаўных вышэйшых навучальных установах Беларусі, большасць выпускнікоў ВНУ атрымліваюць пасля заканчэння свабодныя дыпломы. Практычна незапатрабавальнымі застаюцца маладыя кадры тэхнічных вышэйшых устаноў, якія рыхтуюць інжынераў, канструктараў, тэхнолагаў. На думку сацыёлагаў, гэта звязана з цяжкім эканамічным становішчам буйных прадпрыемстваў рэспублікі.

Так, паводле даных на снежань 1993 года, як паведамілі ў аддзеле кадраў Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, толькі 310 з 1228 выпускнікоў гэтай установы атрымалі дзяржаўнае размеркаванне. Да таго ж яшчэ 267 — адмовіліся ад яго і атрымалі права на самастойнае працаўладкаванне. Такім чынам можна гаварыць пра тое, што і яны змогуць знайсці сабе працу, атрымаўшы дыпломы аб вышэйшай адукацыі. Менавіта многія з іх звязваюць сваю будучую дзейнасць з іншымі сферамі дзейнасці, магчыма, нават і не па спецыяльнасці. Аднак вядома адно, і ў гэтым упэўнены сацыёлагі, спецыялісты з вышэйшай адукацыяй хутчэй за іншых працаўладкоўваюцца.

Ірына ШУКЕВІЧ.

### Цэны: поўны наперад

*Цэны скачуць усё вышэй. На гэты раз — на тварог, смятану і вяршкі. Іх кошт з 15 красавіка павялічваецца ў 3 разы. За кілаграм паўтлустага тварагу вышэйшага гатунку прыйдзецца плаціць ужо 4000 рублёў, смятаны 20–працэнтнай тлустасці — 6300, а 25–працэнтнай — 7200 рублёў. Паўлітровая бутэлька вяршкоў дзесяціпрацэнтнай тлустасці пацягне на 1660 рублёў.*

Застануцца без змен фіксаваныя цэны на малако, кефір, сыраквашу, ацыдафілін, сыроватку, а таксама дзіцячае харчаванне.

БЕЛІНФАРМ.

### "Рэфармісцкі" семінар

*У Маладзечна прайшоў абласны семінар, падрыхтаваны Беларускім рэспубліканскім фондам падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л.Сапегі пры ўдзеле Інстытута праблем кіравання (Будапешт) і гарсавета.*

У семінары ўзялі ўдзел старшыня гарадскога Савета народных дэпутатаў Генадзь Карпенка, эксперты фонду, навукоўцы Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і іншых навучальных устаноў.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### "Нацыя. Мова. Культура"

*Інфармацыйны тыдзень пад такім дэвізам прайшоў з 11 па 15 красавіка ў Гродна. Яго арганізавалі супрацоўнікі абласной бібліятэкі імя Я.Карскага і дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Яго мэта — прапаганда беларускай гісторыі, культуры, літаратуры.*

Адбыліся шматлікія кніжныя агляды, прысвечаныя творчасці беларускіх пісьменнікаў, эміграцкай літаратуры, выданням да 50-годдзя вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прайшлі гутаркі за "круглым сталом" па тэмах "Белыя плямы мінулага", "Беларускае мастацтва, традыцыі і сучаснасць", "Беларуская літаратура сёння".

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Пасябруйце... з Зямлёй

*Міжнародная культурна–экалагічная акцыя "Дзень Зямлі" на Віцебшчыне здоўжыцца болей як тыдзень, аж да 25 красавіка. Абласны камітэт па экалогіі, экалагічны цэнтр навучэнцаў, маладзёжны экалагічны рух звярнуліся да школьнікаў, навучэнцаў ПТВ, настаўнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ, да ўсіх жыхароў вобласці з заклікам прыняць удзел у гэтай акцыі.*

"А ты хоць дрэўца пасадзіў? Няхай сябе спытае кожны", — пісаў паэт. Хай жа алеі, скверы, сады не толькі ўпрыгожаць наша жыццё, але і стануць нашымі надзейнымі паветранымі фільтрамі. Прырода аддзячыць.

Уладзімір МІХНО.

### Крок да ўзаемаразумення

*Як паведамлялася ўжо, 22–23 красавіка ў Мінску пройдзе першая сустрэча беларускай моладзі свету.*

З нагоды гэтай падзеі аргкамітэт сустрэчы правёў прэс-канферэнцыю, якая адбылася ў канферэнц-зале філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Старшыня аргкамітэта Яўген Лапарскі ды іншыя сябры рады адказалі на пытанні журналістаў, расказалі аб тым, якія чакаюцца вынікі.

Бадай, галоўнай мэтай імпрэзы можна лічыць яшчэ адзін крок нашага грамадства ў напрамку пошукаў згоды і ўзаемаразумення.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### Фестывальная латарэя

*З мэтай фінансавай падтрымкі II Рэспубліканскага фестывалю песні "Маладзечна–94" Маладзечанскі гарсавет вырашыў правесці напярэдадні гэтага музычнага свята, якое адбудзецца 8 чэрвеня, грашова–рэчавую латарэю.*

Выпускаецца 100 тысяч білетаў коштам па 5000 рублёў кожны, на агульную суму 500 мільёнаў рублёў. Выйгрышны фонд устаноўлены ў размеры 50 працэнтаў.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Дарунак ад "Бісера"

*У фае Мастоўскага раённага Дома культуры размясціўся першы гульнявы камп'ютэрны цэнтр.*

Сёння ён уяўляе сабой шэсць камп'ютэраў, у якія закладзены самыя разнастайныя гульні, праграма біярытмаў, восем відаў гараскопа, а таксама розныя тэсты.

Цяпер у гараджан ёсць яшчэ адно месца, дзе можна бавіць вольны час. А дзякаваць за гэты падарунак трэба інфармацыйна-сервіснай кампаніі "Бісер".

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Спартакіяда для дзяцей

*У Крычаве сёлета будзе праведзена гарадская дзіцячая спартакіяда.*

Яе фінансуюць упраўленне адукацыі і гарадскі спартыўны камітэт. Створаны ўжо аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенню спартыўнага свята для дзяцей.

Аляксандр БАЛДОЎСКІ.

### "Веснавыя рытмы – 94"

*Пад такой назвай сёння ў Мінскім Палацы спорту адкрываецца VII Міжнародны турнір па спартыўных танцах. Ён працягнецца два дні.*

Упершыню падобны конкурс выканаўцаў бальных танцаў прайшоў у беларускай сталіцы вясной 1987 года. Ён запомніўся публіцы і стаў ужо традыцыйным. У розныя гады ў "Веснавых рытмах" бралі ўдзел танцоры не толькі з рэспублік былога Саюза, а і з Англіі, Германіі, Швецыі, Фінляндыі, Японіі і іншых дзяржаў.

Якаў ЯСЭПКІН.

### Курсы валют на 15 красавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 11880 | 12360 | 6940 | 7225 |
| "Прыор" | 11500 | 12300 | 6700 | 7200 |
| "Пошук" | 12000 | 12600 | 7100 | 7800 |

АФІЦЫЙНА

## Аб Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

15 сакавіка 1994 года адбылася вельмі знамянальная падзея ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны: прыняты Асноўны Закон дзяржавы. Толькі вастрыня надзённых праблем не дазваляе нам належным чынам усвядоміць сябе ўдзельнікамі падзей, якія будуць вывучацца нашымі нашчадкамі.

Для мяне несумненна, што прыняцце Канстытуцыі незалежнай Беларускай дзяржавы будзе адзначацца гісторыкамі ўсіх часоў і народаў, як непазбежны вынік шматвяковай беларускай гісторыі і пачатак трывалага ўздыму суверэннай Рэспублікі Беларусь. Гэта так, бо менавіта Канстытуцыя з'яўляецца тым надзейным падмуркам, на якім можна і неабходна будаваць велічны гмах вялікай дзяржавы, паўнапраўнага члена сусветнага супольніцтва.

Грамадзяне розных светапоглядаў і розных палітычных плыняў унеслі ў Канстытуцыю самае найлепшае і бясспрэчнае, тое, што можна лічыць агульнымі каштоўнасцямі ўсяго беларускага народа. І тая кампраміснасць норм Канстытуцыі, аб якой не заўсёды выказваюцца станоўча, з'яўляецца гарантыяй для далейшага ўзаемаразумення і безумоўнай перамогі канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь.

Патрэбна ясна ўсведамляць, што павага да законаў пачынаецца з павагі да Канстытуцыі. Ведаць законы – гэта, у першую чаргу, ведаць Канстытуцыю.

Цяжкімі і напружанымі былі падрыхтоўка і прыняцце Канстытуцыі, але народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь і іншыя ўдзельнікі гэтай адказнай працы з гонарам апраўдалі выказаны ім давер. І цяпер патрэбна зрабіць так, каб вялікі стваральны патэнцыял Канстытуцыі ўвасабляўся на практыцы, рабіўся рэальнай часткай паўсядзённай рэчаіснасці.

Неаднаразова ўзважана кожная літара ў артыкулах Канстытуцыі, якія прысвечаны правам асобы, таму што трэба было не толькі даць як мага большыя правы кожнаму грамадзяніну рэспублікі, але і зрабіць так, каб гэтыя правы не супярэчылі адно аднаму, не перашкаджалі рэалізацыі правоў іншых асоб, каб кожнае права было не толькі дэкларавана, але і мела рэальныя шанцы на рэалізацыю, каб іншыя грамадзяне і дзяржава былі абавязаны садзейнічаць гэтаму. Але канстытуцыйная сістэма асабістых правоў і абавязкаў будзе дзейнічаць толькі ў той ступені, у якой усе мы – грамадзяне Рэспублікі Беларусь – ведаем свае паўнамоцтвы і актыўна выкарыстоўваем іх у сваёй дзейнасці, сваім асабістым жыцці. Спадзявацца на тое, што высокі статус асобы, які замацаваны ў Канстытуцыі, пераможа сам па сабе ці будзе кімсьці забяспечаны, было б дзіцячай наіўнасцю. Дзяржава – гэта мы, і як мы будзем выконваць Канстытуцыю, так яна і будзе паляпшаць наша жыццё.

Канстытуцыя замацавала накірунак нашага развіцця – стварэнне дэмакратычнай, сацыяльнай і прававой дзяржавы, але колькі крокаў мы зробім у гэтым накірунку, залежыць толькі ад нас. Пры гэтым патрэбна засяродзіць увагу на сацыяльным характары нашага права і нашай дэмакратыі. Менавіта сацыяльны характар надае асаблівы сэнс нашаму дзяржаўнаму будаўніцтву. Сацыяльны – гэта значыць грамадскі. У сацыяльнай дзяржаве чалавек – вышэйшая каштоўнасць дзяржавы і грамадства не ў якасці самазахопленага эгаіста, які не клапоціцца ні аб чым, акрамя ўласнага дабрабыту, а ў якасці члена грамадства, для якога дабрабыт іншых – не меншая каштоўнасць, чым свой асабісты.

Канстытуцыя з'яўляецца адзіным цэласным актам, яе нельга выконваць часткова. Да чаго можа прывесці частковасць, мы бачым на прыкладзе крытыкі, якая гучыць у адносінах да прэзідэнцкага характару рэспублікі, уведзенага Канстытуцыяй. Зразумела, што тыя паўнамоцтвы, якія даюцца прэзідэнту, могуць прынесці вялікую шкоду, калі карыстацца імі без уліку іншых канстытуцыйных норм. Але ў кантэксце Канстытуцыі прэзідэнт як кіраўнік дзяржавы і лідэр выканаўчай улады, заканадаўчая і судовая ўлады павінны ва ўзаемадзеянні забяспечыць правы асобы і шматграннае развіццё краіны. Дзяржаўныя ўлады не могуць пашкодзіць асобе і грамадству, не парушыўшы Канстытуцыю. Трэба толькі не дазваляць ім рабіць гэтага.

Сёння такая задача зводзіцца, у першую чаргу, да таго, каб кожны грамадзянін прыняў актыўны ўдзел у маючых адбыцца выбарах, каб прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і дэпутатамі Вярхоўнага Савета сталі менавіта тыя асобы, якія ў найбольшай ступені адпавядаюць патрабаванням Канстытуцыі. Грамадзянін, зразумела, мае права не ўдзельнічаць у выбарах, але пасіўнасць у самым пачатку канстытуцыйных пераўтварэнняў з боку любога з нас вядзе да паслаблення канстытуцыйнага працэсу, да таго, што працэс гэты наогул спыніцца, ці больш актыўная частка насельніцтва даб'ецца панавання сваіх інтарэсаў.

Такім чынам, прыняцце Канстытуцыі можна параўнаць з зацвярджэннем стратэгічнага плана, які можа застацца толькі планам, калі не стане арыенцірам для кожнага нашага ўчынку. Велічнасць плана патрабуе высакароднасці ўчынкаў. Зразумела, нельга адразу ўсвядоміць усё тое, што патрабуе ад нас наша Канстытуцыя, але пачынаць трэба цяпер. Я заклікаю вас да руплівага вывучэння Асноўнага Закона Рэспублікі Беларусь і да напружанай працы на карысць Радзіме.

У якасці вышэйшай службовай асобы дзяржавы да ўступлення прэзідэнта на пасаду запэўніваю вас, што ні адзін выпадак парушэння канстытуцыйнай законнасці не застанецца па-за ўвагай, што мы зробім усё для росквіту Радзімы, прадвесніцай якога з'яўляецца новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Мячэслаў ГРЫБ
Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

## Каму рублёвая зона, а каму Чырвоная кніга

□ Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ"

*Эканамічныя праблемы многіх прадпрыемстваў, як, зрэшты, і ўсёй нашай рэспублікі, нельга звязваць толькі з цяжкасцямі змены грамадска–палітычнага ладу, пераходам ад развітога сацыялізму да недаразвітога капіталізму. Крызіс у эканоміцы рэспублікі — гэта вынік агульнага спаду вытворчасці. Але ёсць шэраг прычын, якія паглыбляюць заняпад, вядуць да паражэння канчатковай прадукцыі. Адна з іх — высокія цэны на нафту і газ, доля якіх у кошце тавару займае прыярытэтнае месца. І як бы мы ні фанабэрыліся, а Расія была і застаецца асноўнай "кладоўкай" сыравінных рэсурсаў. Менавіта са спадзяваннем атрымання больш танных энерганосьбітаў, матэрыялаў, сыравіны і звязваюць беларускія спажыўцы надзеі на паляпшэнне спраў у эканоміцы. Зрэшты, нядаўна падпісанае пагадненне і дакументы аб аб'яднанні грашовых сістэм Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі адкрываюць гэткія перспектывы.*

На прэс-канферэнцыі, што адбылася 14 красавіка, Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Францавіч Кебіч прама падкрэсліў: "Я зрабіў свой выбар... І глыбока перакананы, што ў саюзе з Расіяй — выратаванне нашых дзяцей і ўнукаў."

Што ж, сапраўды, зроблены важны крок у справе наладжвання страчаных пазіцый у галіне эканомікі. Відаць, кіраўнікі абедзвюх дэлегацый краін, якія прымалі ўдзел у падпісанні пагаднення, прыйшлі да высновы, што прадаўжаць палітыку, заснаваную на крохкай надзеі "народ вытрывае", становіцца ўсё цяжэй. У прыватнасці, спад вытворчасці ў нашай Рэспубліцы склаў 35 працэнтаў. Няцяжка ўявіць, што за гэтай лічбай: тут і беспрацоўе, і нізкая зарплата, і скарачэнне штатаў, і...

Адным словам, крок да збліжэння зроблены. Старшыня Савета Міністраў В.Ф.Кебіч расказаў аб цяжкасцях, якія спадарожнічалі прыняццю важных дакументаў, умовах функцыяніравання агульнай грашовай сістэмы, аб працэсе абмену нацыянальных білетаў на расійскія рублі. Падкрэсліў, што ў мэтах збалансавання грашовых сродкаў на два апошнія месяцы паўгоддзя Расія прадастаўляе рэспубліцы крэдыт у 200 мільярдаў рублёў. Грашовыя сродкі насельніцтва з разліку 200 тысяч рублёў на кожнага члена сям'і будуць абменьвацца па намінальнай вартасці - адзін да аднаго. Па гэтаму ж прынцыпу будзе праведзены абмен укладаў у ашчадбанках. Аднак, тут гэты эквівалент будзе захоўвацца для ўкладчыкаў, хто мае на рахунку да аднаго мільёна рублёў. А калі больш, то, згодна з артыкулам тры закона, г.зн. у пэўнай прапорцыі.

Гэтыя і іншыя праблемы, закранутыя ў ходзе прэс-канферэнцыі, не новыя: у апошні час у сродках масавай інфармацыі як нашай рэспублікі, так і Расіі, пытанню аб уваходзе ў адзіную рублёвую зону ўдзялялася дастаткова ўвагі. Былі сур'ёзныя спробы разабрацца ў сапраўдным становішчы спраў, былі, на жаль, і скептычныя — уявіць дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм як страту суверэнітэту. Аднак ніхто з "рознакаляровых" палітычных апанентаў не ўнёс прапаноў, варыянтаў выхаду з крызісу, спынення інфляцыі ў рэспубліцы. Дарэчы, спробы скіраваць тэму рублёвай зоны ў плынь палітычнага рэчышча былі і на гэтай прэс-канферэнцыі. У прыватнасці, выказваліся рэплікі, накшталт: калі ствараецца агульная рублёвая зона, дык ці варта мець свайго прэзідэнта? Або зусім не з той оперы: за што выдвараны за межы рэспублікі Аляксандр Прушынскі?

Але гэта да слова. Старшыня Савета Міністраў В.Ф.Кебіч падкрэсліў, што нежаданне ўваходзіць у адзіную грашовую сістэму выказваюць у асноўным тыя, хто на істотнай розніцы ў намінальнай вартасці нацыянальных білетаў і расійскага рубля няблага пагрэў рукі, а таксама прадстаўнікі камерцыйных банкаў некаторых палітычных рухаў. Што тычыцца большасці насельніцтва, то людзі за інтэграцыю, за ваенна-палітычны і эканамічны саюз. А лёс людзей, якія апынуліся ў экстрэмальных эканамічных умовах, нельга пакідаць без увагі.

Безумоўна, каб цалкам выканаць усе артыкулы пагаднення і звязаныя з ім дакументы, спатрэбіцца не толькі час (хоць сем пунктаў закона дзейнічаюць з моманту падпісання), але ўнясенне Вярхоўным Саветам змяненняў у дзеючую Канстытуцыю, у прыватнасці, фармуліроўку 145 яе артыкула, дапрацоўка заканадаўчай банкаўскай сістэмы, у рэшце рэшт, — грошы. Але, як кажуць, аўчынка варта вырабу.

У заключэнне прэс-канферэнцыі нехта з журналістаў пацікавіўся: ці не адвернуцца ад рэспублікі краіны Захаду ў сувязі з уваходам у адзіную грашовую сістэму? Як прарэагавалі ў Міжнародным валютным фондзе?

На іх Вячаслаў Францавіч адказаў: у Міжнародным валютным фондзе толькі пацікавіліся: ці ўвайшлі ўжо ў зону? А наконт рэакцыі краін Захаду. А хто, скажыце, да нас павярнуўся?

Адным словам, здаецца, нам "свеціць" рублёвая зона, а беднаму "зайку" — Чырвоная кніга.

■

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



*Дзяжурныя па выпуску:*

*Я.ЯСЭПКІН, П.СІМАНАЎ.*

## "Еўраньюс"

### Сербскі "адказ"

*Баснійскія сербы абстралялі гарады Тузлу і Траўнік.*

Пад артылерыйскі абстрэл трапіў аэрапорт непадалёк ад паўночнабаснійскага горада Тузла, які кантралюецца войскамі ААН. Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы, ніхто не пацярпеў. Узлётна-пасадачная паласа таксама засталася без пашкоджанняў. Эксперты лічаць, што сербская бамбардзіроўка — акцыя ў адказ на натаўскія авіяналёты.

### Збілі свае

*Сталі вядомыя прычыны авіяцыйнай трагедыі, якая адбылася ў небе над Іракскім Курдыстанам, на поўначы гэтай краіны.*

Некалькі курдскіх верталётаў па няшчасцю былі збітыя іракскай авіяцыяй. Між тым, курды спрабавалі ўскласці віну за гэты інцыдэнт на амерыканскія войскі.

### У Руандзе горача...

*Са сталіцы Руанды эвакуіраваны апошнія іншаземцы.*

## "Суперчэннэл"

Між тым, там працягваецца паніка. Групоўкі паўстанцаў кантралююць многія важныя стратэгічныя пункты горада. Але супраціўленне з боку ўрадавых войск працягваецца. За час сутыкненняў ужо забіта больш як 10 000 чалавек.

### Гандаль – па адзіных правілах?

*У Маракешы праходзіць сустрэча прадстаўнікоў дзяржаў-удзельніц генеральнага пагаднення па тарыфах і гандлю.*

Асноўная мэта сустрэчы — стварэнне сусветнай арганізацыі гандлю. Як адзначаюць аглядальнікі, упершыню на перамовах такога рангу ў разлік бяруцца інтарэсы краін, якія сталі на шлях развіцця.

## "TV-5"

### У Кабуле абвінавачваюць Ташкент

*Афганскі бок абвінаваціў Ташкент у падтрымцы праціўнікаў прэзідэнта Рабані.*

Радыё Кабула заявіла ўчора аб тым, што, паводле даных разведкі, Узбекістан прадаставіў самалёты для бамбардзіровак афганскай сталіцы.

### "Сярэбраная ліхаманка"

*На біржах каштоўных металаў Індыі працягваецца паніка ў сувязі са зніжэннем цэн на серабро.*

За апошні тыдзень яно патаннела тут прыкладна на 100 рупій.

## "Уорлднэт"

### Камп'ютэрныя жабы

*Жыццёва важную для жаб камп'ютэрную праграму стварылі індыйскія праграмісты.*

Праграма змяшчае падрабязнае апісанне ўсіх анатамічных доследаў над жабамі і дае магчымасць "прэпараваць" гэтых няшчасных стварэнняў прыроды без іх фізічнага ўдзелу.


(Працяг на 3-й стар.).


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




### Зноў ахвяры

*У сераду раніцай у Ізраілі ў адным з аўтобусаў узарвалася бомба.*

Як мінімум, 5 чалавек загінулі і 20 атрымалі раненні. Трагедыя здарылася на цэнтральным аўтавакзале ў горадзе Хадэра, што знаходзіцца ў 45 кіламетрах ад Тэль-Авіва. Гэтая серада ў Ізраілі — дзень памяці салдат, што загінулі ў ізраільска-арабскай вайне.

### ЕС супраць... свайго старшыні

*Еўрапейскі Саюз аб'явіў, што ён зробіць пэўныя законныя захады супраць Грэцыі ў сувязі з тым, што яна адмаўляецца адмяніць уведзеную два месяцы таму гандлёвую блакаду ў адносінах свайго суседа — былой югаслаўскай рэспублікі Македоніі.*

Гэтая акцыя ставіць Грэцыю ў няёмкае становішча, таму што яна цяпер старшынствуе ў ЕС. Некаторыя члены Еўрапейскага Саюза настойваюць на заканадаўчым уздзеянні на Грэцыю і тлумачаць такі падыход наступным чынам. На іх думку, гандлёвая блакада Македоніі і прывядзе да далейшай дэстабілізацыі абстаноўкі на Балканах.

### 40 удараў – на дваіх

*У Плімуце пачата паліцэйскае расследаванне па надзвычай жорсткаму забойству афіцыянткі аднаго з мясцовых бараў і яе сябра.*

Іх знайшлі ў кватэры апошняга. Кожнаму было нанесена больш як 20 нажавых раненняў. У якасці адной з версій прычыны забойства паліцыя выказала меркаванне аб магчымым удзеле забітых у аперацыях наркамафіі.

### Развод па–амерыканску

*Амерыканская рок–зорка Білі Джоэл і супермадэль Крысці Брынкл разыходзяцца пасля 9 гадоў сумеснага жыцця. Гэтыя лунаўшыя ў паветры чуткі яны пацвердзілі ў сумеснай заяве, надрукаванай часопісам "Піпл".*

Прычына, якая прывяла да разводу гэтай сям'і, пакуль невядомая. Аднак ужо даўно выказваліся сцвярджэнні аб тым, што муж і жонка апошнім часам "не ладзяць".

### Абмяняліся ... "абвінавачваннямі"

*Прэзідэнт Аргенціны Карлас Мэнэм абвінаваціў апазіцыйны фронт, які аб'яднаў дэмакратычныя партыі, у фальсіфікацыі вынікаў выбараў, што адбыліся ў мінулую нядзелю.*

У інтэрв'ю сталічнай радыёстанцыі кіраўнік дзяржавы заявіў, што прадстаўнікі фронту фальсіфікавалі вынікі галасавання ў правінцыі Некен. У адказ на гэта лідэр апазіцыі Карлас Альварас заявіў журналістам, што прэзідэнт і яго асяроддзе не прывыклі прайграваць і таму намагаюцца прынізіць перамогу апазіцыйных сіл.

### Сусветная канферэнцыя мэраў

*У сталіцы Ізраіля прайшла традыцыйная сусветная канферэнцыя мэраў.*

Упершыню на ёй прысутнічалі мэры Мінска, Тбілісі і Рыгі — сталіц незалежных рэспублік Беларусі, Грузіі і Латвіі.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

### 18-24 красавіка

#### Авен

**Панядзелак.** Звярніце ўвагу на сваё самаадчуванне.

**Аўторак.** Пастарайцеся выехаць за горад і паменшыць нагрузку на нервовую сістэму.

**Серада.** Можаце дабіцца жаданага выніку, нягледзячы ні на што. Будзьце пяшчотнымі са сваім партнёрам.

**Чацвер.** Вам неабходна ў гэты дзень упэўненасць у сабе. Можаце дабіцца поспеху ў вялікіх здзелках.

**Пятніца.** Магчыма падарожжа. Усё, што плануеце, пастарайцеся ажыццявіць. З'явіцца шанц на ўдачу ў асбістым жыцці.

**Субота.** Не адхіляйце каханне. Пазбягайце прыняцця важных рашэнняў у гэты дзень.

**Нядзеля.** Адкладзіце сваю актыўнасць да наступнага раза.

#### Цялец

**Панядзелак.** Атрымаеце навіны здалёк. Поспех у фінансавай сферы. Сачыце за сваімі нервамі. Магчымы зрыў.

**Аўторак.** Спрыяльны час для бізнесу. Не давярайце ў гэты дзень нікому. Удача ў каханні.

**Серада.** Займіцеся прадпрымальніцтвам. Неспрыяльны для эротыкі час.

**Чацвер.** Абдумвайце кожны свой крок. Пастарайцеся ўвайсці ў становішча свайго каханага.

**Пятніца.** Магчыма новае цікавае захапленне. Не губляйце галавы. Беражыце свой страўнік.

**Субота.** Больш часу праводзіце на свежым паветры.

**Нядзеля.** Матэрыяльны прыбытак. Не ўпусціце свой шанц.

#### Блізняты

**Панядзелак.** Наведайце сваіх сяброў. Звярніце ўвагу на здароўе вашых блізкіх.

**Аўторак.** Магчыма павышэнне на працы. Будзьце настойлівымі ва ўсім. Лепш не рызыкуйце грашыма.

**Серада.** Займіцеся творчай дзейнасцю. Паспяховымі будуць усялякія пакупкі.

**Чацвер.** Захоўвайце асцярожнасць у каханні.

**Пятніца.** Энергічнасць дапаможа вам пераадолець цяжкасці і праблемы. Перамены ў каханні.

**Субота.** Не лепшы час для ўсялякіх пачынанняў. Не будзьце вельмі настойлівымі ў гэты дзень. Вам лепш выехаць на прыроду.

**Нядзеля.** Пашырыцца кола вашых знаёмстваў. Не злоўжывайце ежай.

#### Рак

**Панядзелак.** Сачыце за прагнозам метэаролагаў. Не стаўце сябе ў цэнтр Сусвету. Не заўсёды першы выйграе.

**Аўторак.** Нядрэннае становішча на працы. Не адхіляйце каханне. Пастарайцеся не прымаць ніякіх рашэнняў.

**Серада.** Не давярайце нікому свае фінансавыя справы. Звярніце ўвагу на дзяцей.

**Чацвер.** Пашырэнне сферы дзейнасці. Асцерагайцеся абмену даляраў у гэты дзень, каб пазбегнуць падману. Поспех у каханні.

**Пятніца.** Спрыяльны час для бізнесу. Магчыма прыемная нечаканасць у інтымных адносінах.

**Субота.** Адкладзіце свае хатнія справы і правядзіце больш часу ў гутарках з сябрамі.

**Нядзеля.** Пазбягайце канфліктаў у сям'і. Займіцеся пашырэннем свайго кругагляду.

#### Леў

**Панядзелак.** Асцерагайцеся ўсялякага падману ў гэты дзень. Наведайце царкву.

**Аўторак.** Магчымы цяжкасці ў інтымным жыцці. Кантралюйце сітуацыю. Не злоўжывайце алкаголем.

**Серада.** Не лепшы час для вырашэння фінансавых спраў. Пазбягайце сварак з супрацоўнікамі.

**Чацвер.** Будзьце настойлівымі ва ўсім. У сардэчных справах патрабуюцца значныя намаганні.

**Пятніца.** Поспех у бізнесе.

**Субота.** Не выключана цудоўнае падарожжа. Пастарайцеся не сварыцца з роднымі, гэта нікому не патрэбна.

**Нядзеля.** Спрыяльны час для падарожжа.

#### Дзева

**Панядзелак.** Эканомце свае сілы. Наведайце сяброў. Удача ў асабістым жыцці.

**Аўторак.** Вам лепш не вырашаць грашовых спраў аднаму. Займіцеся сваім здароўем.

**Серада.** Прадумайце свае паводзіны на працы. Не прымайце ляспешлівых рашэнняў. Беражыце сэрца ад хваляванняў.

**Чацвер.** Пастарайцеся не заключаць ніякіх здзелак у гэты дзень. Лепш не сустракайцеся са сваім партнёрам, каб не пасварыцца з ім.

**Пятніца.** Могуць узнікнуць цяжкасці ва ўзаемаадносінах з супрацоўнікамі. Будзьце ўважлівымі ў фінансавай сферы.

**Субота.** Правярайце ўсялякую атрыманую інфармацыю.

**Нядзеля.** Удача ў грашовай сферы. Не злоўжывайце алкаголем.

#### Шалі

**Панядзелак.** У грашовай сферы многае будзе залежаць ад вас. Можаце пачынаць справы.

**Аўторак.** Падумайце пра ўмацаванне вашага матэрыяльнага становішча.

**Серада.** Не марнуйце час. Аднаму грашовыя справы лепш не вырашаць. Звярніцеся па дапамогу да сваіх знаёмых.

**Чацвер.** Поспех у бізнесе. У каханні праблем не будзе.

**Пятніца.** Магчымы вялікі матэрыяльны прыбытак. Асцерагайцеся сур'ёзных захворванняў.

**Субота.** Будзьце ўважлівымі ў дарозе. Атрымаеце цудоўныя навіны здалёк. Не плануйце рашучых крокаў на гэты дзень.

**Нядзеля.** Вырашэнне хатніх праблем. Сачыце за сваімі дзецьмі.

#### Скарпіён

**Панядзелак.** Павышэнне вашага творчага патэнцыялу. Будзьце настойлівымі ва ўсім. Поспех у каханні.

**Аўторак.** Не вырашайце ніякіх юрыдычных спраў.

**Серада.** Пазбягайце канфліктаў з супрацоўнікамі.

**Чацвер.** Не плануйце сур'ёзных спраў у гэты дзень, каб у далейшым не шкадаваць. Верагоднасць памылковых меркаванняў.

**Пятніца.** У каханні ваша слова першае. Магчыма матэрыяльная падтрымка з нечаканай крыніцы.

**Субота.** Наведайце сваіх сяброў. Удача ў інтымным жыцці.

**Нядзеля.** Займіцеся спортам у гэты дзень.

#### Стралец

**Панядзелак.** Рызыкуйце ў бізнесе. Магчыма прыемная нечаканасць у каханні.

**Аўторак.** Вам лепш адкласці ўсе віды фінансавых аперацый. Пазбягайце сварак з супрацоўнікамі і з роднымі.

**Серада.** З дапамогай сяброў вы зможаце павялічыць сваю маёмасць. Будзьце настойлівымі.

**Чацвер.** Стрымлівайце свае эмоцыі. У інтымным жыцці не будзе праблем.

**Пятніца.** Будзьце стрыманымі ў адносінах да сваіх блізкіх.

**Субота.** Цяжкасці ў сям'і. Кантралюйце сітуацыю.

**Нядзеля.** Не рызыкуйце нічым у гэты дзень. Магчыма цікавае падарожжа.

#### Казярог

**Панядзелак.** Пастарайцеся не канфліктаваць з сябрамі. Праяўляйце ва ўсім больш характару і настойлівасці.

**Аўторак.** Магчымы цяжкасці з новымі знаёмствамі. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

**Серада.** Не плануйце ніякіх важных спраў. Верагоднасць памылковых меркаванняў.

**Чацвер.** Адкладзіце каханне на іншы час.

**Пятніца.** Непаразуменні ў фінансавай сферы. Займіцеся сваім здароўем.

**Субота.** Захоўвайце асцярожнасць у гутарках з ахоўнікамі парадку. Поспех у інтымным жыцці.

**Нядзеля.** Не давярайце нікому ў гэты дзень. У каханні трэба ўмець дараваць.

#### Вадалей

**Панядзелак.** Пастарайцеся не сварыцца з блізкімі, каб у далейшым не шкадаваць.

**Аўторак.** Будзьце ўпэўненымі ў сабе.

**Серада.** Не лепшы час для актыўных дзеянняў. Захоўвайце асцярожнасць у фінансавых аперацыях.

**Чацвер.** Можаце разлічваць на дапамогу родных і знаёмых. Вам прыйдзецца перагледзець ранейшыя планы.

**Пятніца.** Пашырэнне сферы вашай дзейнасці. Поспех у каханні.

**Субота.** Вырашэнне вашых інтымных праблем.

**Нядзеля.** Удача ў бізнесе.

#### Рыбы

**Панядзелак.** Стабілізуецца становішча на працы. Прыемная нечаканасць у асабістым жыцці.

**Аўторак.** Пастарайцеся вырашыць усе пытанні з начальствам. Не адхіляйце каханне.

**Серада.** Будзьце рашучымі ва ўсім. Асцерагайцеся захворванняў.

**Чацвер.** Многае будзе залежаць ад вашых знаёмых. Узнавіце перарваныя сувязі.

**Пятніца.** Поспех у фінансавай сферы.

**Субота.** Атрымаеце нейкую важную інфармацыю. Пазбягайце плётак.

**Нядзеля.** Правядзіце больш часу на свежым паветры.

КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# Багна

## Аповед ахоўніка калоніі строгага рэжыму

□ Франц ЛЯВІЦКІ

Калі ўзнікла дзяржава, тады ўзніклі і законы. А з іх нараджэннем з'явіліся людзі, якія пачалі парушаць гэтыя законы. Апошняе ж выклікала неабходнасць ізаляцыі злачынцаў ад грамадства. Вось тады і пачалі з'яўляцца турмы.

Пра адну з такіх устаноў, папраўча-працоўную калонію строгага рэжыму, што размешчана ў таёжных лясах Краснадарскага краю, расказаў мне афіцэр, які шэсць гадоў праслужыў там (прозвішча гэтага чалавека па зразумелых прычынах не ўказваю).

...Як кожны тэатр пачынаецца з вешалкі, так кожная зона — з калючага дроту. Але не думайце, што толькі дрот аддзяляе нас ад забойцаў, зладзеяў, гвалтаўнікоў... Мяжа паміж "намі" і "імі" практычна непераадольная. Адразу ідзе маскіровачны плот вышынёй каля трох метраў, які хавае ад цікаўных вачэй як жыццё зоны, так і ўстройства ахоўных аб'ектаў. Пасля маскіровачнага плота размешчана сцяна з калючага дроту. Вышыня яе — таксама 2,5-3 метры. Наверсе — "матанка" з таго ж дроту, пераадолець якую практычна немагчыма: завязнеш у ёй, заблытаешся і... За "калючай" сцяной ідзе яшчэ адна — з сігналізацыяй і супрацьпадкопным устройствам. Так што падземны тунель таксама пракапаць немагчыма. Далей, ужо ўнутры зоны, уздоўж плота пастаўлены супрацьтаранныя камлыгі, праз якія нават на танку не прарвешся. Да таго ж па ўсяму перыметру зоны (а ў апісваемай ён быў ажно тры кіламетры) праз кожныя 150-200 метраў стаяць вартавыя вышкі. На іх салдаты, у чыіх руках аўтаматы. І страляюць апошнія, зразумела, не халастымі патронамі. Так што, як бачым, пераадолець усе гэтыя перашкоды, здаецца, не зможа практычна ні адзін чалавек. Але ж уцякаюць, скажаце вы. Сапраўды, у мінулым годзе толькі з гэтай зоны збегла шэсць зняволеных. Не ўсіх удалося злавіць.

— Уцякаюць, зразумела, папрознаму, — расказвае мой субяседнік. Вось, напрыклад, некалькі выпадкаў. Панадзіўся адзін "зэк" з зоны сыходзіць. Неяк падышоў на КПП да вартавога: адпусці, маўляў, да маладухі ў пасёлак схадзіць. Праз пару гадзін буду. Ну, і "прэзент" салдату дае. Той думаў-думаў ды адпусціў. Вярнуўся "зэк", як і абяцаў. Потым другі раз прыйшоў, трэці... А неяк завітаў ужо з сябрам: адпусці дваіх, вернемся хутка, ты ж ведаеш, я не падману. Зноў адпусціў салдат іх. Толькі назад ужо не дачакаўся. Аднаго "зэка" потым злавілі. А салдата — пад трыбунал.

Другі раз спрабавалі на "КрАЗе" ўцячы. Машына магутная, пратараніла вароты і панеслася. Машыну мы дагналі хутка. Не ўлічылі злачынцы таго, што "КрАЗ" не быў загружаны, а таму кабіна — як на далоні. Далі па ёй некалькі аўтаматных чэргаў. У выніку ўсе ўцекачы былі застрэлены.

А аднаго разу чатыры "зэкі" захапілі ў заложніцы дзвюх медсясцёр. У абмен запатрабавалі 10 тысяч рублёў (тады гэта былі добрыя грошы), каністру спірту і верталёт. Апошні прызямліцца на тэрыторыі зоны не мог, а сеў недалёка ад яе. Злачынцам далі аўтобус: даехаць да верталёта. Як толькі яны выехалі з зоны — пачалася аперацыя. Снайпер страляе ў "зэка" за рулём, адначасова схаваныя салдаты пачынаюць страляніну ў паветра: для шумавога эфекту. Афіцэр аховы, узброены двума пісталетамі, праз лабавое шкло ўлятае ў аўтобус і... Заняла гэта аперацыя секунды тры. Адзін з "зэкаў" усё ж паспеў ударыць нажом у жывот медсястру; яе на тым жа верталёце адправілі ў Краснадар. Ачуняла і зараз зноў працуе там жа. А "зэкі"? Ніхто з іх не выйшаў з аўтобуса жывым.

...Па розных прычынах уцякаюць зняволеныя. Адны таму, што баяцца помсты ці разборак з боку іншых "зэкаў", другія, наадварот, — каб адпомсціць камусьці, хто застаўся на волі, трэція таму, што не могуць перанесці законаў і правіл зоны.



Так, зняволены мае права на два спатканні ў год: адно працяглае (трое сутак) і адно кароткае (адны суткі). На спатканне ў зону могуць прыехаць ці бацькі зняволенага, ці яго жонка, ці яшчэ хтонебудзь. На дазволены час ім будзе адведзены спецыяльны пакой.

Яшчэ зняволены можа атрымаць у год адну пасылку. Раней вага пасылкі была строга лімітавана, зараз жа дазваляецца любая вага, якую прынялі ў аддзяленнях сувязі. Частку пасылкі, па ўжо гадамі ўстаноўленых законах, трэба аддаць тым, хто цябе ахоўвае, частку — аўтарытэтам зоны. Застаецца для сябе, мякка кажучы, не так ужо і многа. Але нічога не зробіш: такое "там" жыццё.

— А ўвогуле, — працягвае мой субяседнік, — сёння на зоне жыць стала лягчэй. Зараз зняволеных ужо не стрыгуць "пад нуль", толькі ў тых выпадках, калі яны трапляюць у "шызо" — штрафны ізалятар. Зробленыя "зэкам грошы", 50 працэнтаў якіх раней ішлі ў кошт дзяржавы, сёння поўнасцю ідуць на яго рахунак. Адлічваюць толькі за абслугоўванне: адзенне, ежу, цырульню, лазню. Раз у месяц "зэкі" могуць карыстацца зонаўскай крамай, куды паступаюць іх працоўныя карткі, дзе запісана, колькі кожны зарабіў грошай. Вось пэўны працэнт ад заробленага ён і можа пусціць на пакупкі. Так што зараз у зняволеных з'явіўся стымул працаваць: чым больш зарабіш, тым больш — табе.

Карацей кажучы, на руках у зняволеных грошай быць не павінна. Але яны ёсць. І колькі — не ведае ніхто. Грошы зоны ўвогуле падлічыць немагчыма. Большая частка іх знаходзіцца ў "абшчаку" — зонаўскай касе. "Абшчак" служыць, у першую чаргу, для подкупу адміністрацыі, вартавых і г.д. Назірае за "абшчаком" спецыяльны чалавек. Папаўняецца "зэкаўская" каса ў асноўным за кошт карцёжных гульняў, пэўны працэнт з якіх ідзе ў яе.

Добры ігрок у карты цэніцца на зоне вельмі высока. Такі чалавек будзе адкрыта ахоўвацца аўтарытэтамі, таму што апошнія маюць ад яго вялікую выгаду. Чаго ніяк нельга сказаць пра людзей, якія прайграюць. Аддаць картачны доўг — першы абавязак "зэка". Калі прайграўшы не аддае ў тэрмін доўгу, ён аб'яўляецца па-за законам, становіцца на адзін узровень з міліцыянерамі, "стукачамі" і пасіўнымі гомасексуалістамі. У залежнасці ад памеру доўгу, прайграўшага могуць збіць, "апусціць" ці нават забіць (гэта таксама адна з прычын уцёкаў з зоны). Вядомы выпадкі, калі прайграўшыя, якія не маглі заплаціць доўг, аддавалі яго ўласнымі пальцамі. Бывае нават, калі прайграюць саміх сябе. Такі чалавек фактычна становіцца рабом. Калі ж хто-небудзь аддасць доўг прайграўшага, то апошні таксама стане рабом такога "дабрадзея" (і застанецца ім нават пасля выхаду на волю). Вось такія жудасныя законы на зоне.

Назірае за ўсім гэтым адзін чалавек, які выбіраецца з ліку аўтарытэтаў. Гэта — сапраўдны кароль. Але ён не ўтрымаецца на сваёй пасадзе і тыдня, калі адміністрацыя зоны не захоча гэтага. Яго проста перавядуць у іншае месца. "Зэкам" трэба будзе выбраць яшчэ кагосьці, да таго часу, пакуль адміністрацыя не дасць "дабро" на прадстаўленую кандыдатуру. Пасля гэтага ён будзе глядзець за "зэкамі", наладжваць па загаду адміністрацыі іх работу і г.д. У выпадку "праколу" яго таксама перавядуць куды-небудзь — і ўсё пачынаецца спачатку.

...Апісаць зону і жыццё на ёй поўнасцю немагчыма. Гэта яшчэ нікому не ўдавалася ды і, напэўна, не ўдасца. Бо зона — асобны свет, асобнае жыццё. А хто можа апісаць жыццё? Але пра такое жыццё, лічу, пісаць неабходна. Можа хоць гэтым дапаможам мы некаторым людзям не праваліцца ў тую багну, імя якой — зона.

# Госці з Каўказа

Міліцыянер-вадзіцель Чыгуначнага РАУС Гомеля Васіль Іванавіч Ласы а першай гадзіне ночы пасля працоўнага дня вяртаўся дадому. На скрыжаванні вуліцы Осіпава і праспекта Касманаўтаў ён заўважыў мужчыну, які спыняў праязджаючыя аўтамашыны. Работнік міліцыі прайшоў міма, не звяртаючы ўвагі.

Раптам ён заўважыў, што з-за дамоў выйшлі два мужчыны каўказскай нацыянальнасці, адзін з якіх нёс скручаны дыван і вялікую вазу, а другі — два вялікія чамаданы.

Мужчыны з рэчамі падышлі да трэцяга, які стаяў на скрыжаванні. Было бачна, што яны добра ведаюць адзін аднаго. Паблізу ніякай станцыі ці прыпынку не было, каб маглі прыехаць незнаёмцы. Васіль Іванавіч вырашыў, што гэтыя людзі некага абакралі.

Затрымаць аднаму трох — "глухі нумар". Тым больш, што ў міліцыянера не было зброі. Між іншым, і ўпускаць злачынцаў не хацелася. Паспрабуй потым знайсці іх!

Тэлефон-аўтамат, які стаяў непадалёку, не дапамог: была абарвана тэлефонная трубка.

В.С.Ласы пабег дадому і паведаміў па тэлефоне дзяжурнаму аддзялення пра ўбачанае.

Участковы інспектар гэтага аддзялення Лапатаў П.І. з двума міліцыянерамі адразу ж выехалі на месца здарэння. Каўказцы ўсё яшчэ спрабавалі спыніць аўтамашыну.

Толькі спынілася машына з міліцыянерамі, і тры мужчыны праз некалькі хвілін аказаліся ў ёй. На руках у "пасажыраў" быў дыван, ваза, чамадан з рэчамі, чамадан з посудам і два нажы з выкіднымі лёзамі, якія яны выкінулі пры затрыманні. Імі аказаліся жыхары Рэспублікі Грузія браты Рыжвадзе і Джыджавадзе Р.М.

Следствам устаноўлена, што ў той вечар яны пазнаёміліся з грузчыкам рэстарана "Беларусь" В.В.Судаковым, які ў той дзень атрымаў зарплату і вырашыў пагуляць у родным рэстаране.

Валянцін Віктаравіч потым дрэнна памятаў, чаму каўказцы паехалі да яго дадому. Яму запомнілася, як грузін малога росту ўдарыў яго кулаком у твар. Потым гэты ж грузін біў накрыўкай крэсла па галаве. Яшчэ нехта пагражаў ударыць нажом. В.В.Судакоў страціў прытомнасць. Праз некалькі дзён па незразумелых прычынах ён забыў і тое, што першапачаткова памятаў.

Паводле заключэння судмедэкспертызы, у яго былі выяўлены пераломы лобнай косці, скіўіцы і ўдар галаўнога мозгу, якія адносяцца да цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Няма сумненняў, што ўсе трое ўдзельнічалі ў аграбленні кватэры, аднак, карыстаючыся п'яным станам яе гаспадара, які не памятаў, хто што рабіў, Рыжвадзе Г.З. усю віну ўзяў на сябе. Джыджавадзе Р.М. і Рыжвадзе Т.З. заявілі, што яны ніякіх адносін да аграблення не маюць. Былі, маўляў, п'яныя і лічылі, што Рыжвадзе Г.З у кватэры браў свае ўласныя рэчы.

Следчаму супраць апошніх крымінальнае праследаванне прыйшлося спыніць.

Народным судом Чыгуначнага раёна г.Гомеля за разбойнае нападзенне з прычыненнем пацярпеўшаму цяжкіх цялесных пашкоджанняў Рыжвадзе Г.З. асуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Леанід ГРАНКОЎСКІ.**

GREEN PEACE

# Як нараджаюцца кіты?

У красавіку 1967 года нечакана для сябе я атрымаў назначэнне старшым штурманам на кітабойнае судна "Заўзяты". Гэты тып суднаў для мяне, марака транспартнага флоту, быў зусім незнаёмы. Хацелася пабываць усюды, памацаць рукамі кожны прадмет, кожную дэталь, каб зразумець іх прызначэнне. Гарпунная гармата і метровыя гарпуны з гранатай на канцы ўяўляліся мне таямнічымі. У параўнанні з іншымі кітабойнымі суднамі, якія цясніліся ў бухце Залаты Рог Уладзівастока, "Заўзяты" выглядаў самым прыстойным, самым прыгожым.

Жывых кітоў да гэтага я ніколі не бачыў.

Праз тыдзень мы былі ў Ціхім акіяне, у раёне кітабойнага промыслу. Дзесьці ў ста мілях на ўсход — Гавайскія астравы, за тысячу міль на захадзе — родны Уладзівасток. Раніцай, толькі пачало світаць, боцман падняўся на мачту і заняў сваё месца ў "вароніным гняздзе". Мне, як вахтаваму штурману, давялося заняць месца з чатырма назіральнікамі на верхнім мосціку. На баку гарпунер поркаўся з гарпуннай гарматай. Так пачаўся першы дзень промыслу.

Праз бінокль я паглядзеў на цёмны гарызонт. Дзесьці там, далёка, вось-вось павінны з'явіцца фантанчыкі.

Акіян жыве сваім жыццём. Ледзь не дакранаючыся да рэек мачты, пранёсся белы альбатрос. Недалёка ад карабля праплыла чародка касатак. Кітабоец, пераваньваючыся з борта на борт, ціхім ходам ішоў у пошуках кітоў.

Неўзабаве ранішняя актыўнасць акіяна знізілася. Не бачна дэльфінаў, касатак, зніклі птушкі. Нечакана зверху раздаўся голас боцмана:

— Бачу кашалотаў! Цэлы статак!

Я націскаю на аўральны званок — ён абвяшчае аб пачатку палявання. Экіпаж высыпае на палубу, займае свае месцы. Нарэшце, вось яна, доўгачаканая сустрэча з кітамі.

— Трымаць на кітоў! — кідае рулявому капітан.

Статак набліжаўся. Ужо няўзброеным вокам можна было разгледзець, што адбывалася ў вадзе. Дзесяткі два невялікіх самцоў і самак круціліся ля месца, адкуль ва ўсе бакі разляталіся вадзяныя пырскі.

— Застапарыць машыну! — крыкнуў з бака гарпунер.

Сціхлі рухавікі. Кітабойнае судна паволі набліжалася да статка. А кіты, не звяртаючы ўвагі, як ні ў чым ні бывала, працягвалі свой занятак. Два самцы, уткнуўшы з двух бакоў тупыя галовы ў жывот пузатай самкі, з усіх сіл білі хваставымі плаўнікамі па вадзе.

Усе глядзелі з непаразуменнем. Што за дзіва? І раптам хтосьці шэптам, але шэпт гэты быў чутны на ўсім судне, сказаў:

— Браточкі, дык яны ж роды прымаюць!

— Кіт нараджаецца. Хлопцы, на дзень нараджэння трапілі.

Рэдка хто за ўвесь час існавання кітабойнага промыслу змог бачыць такую карціну. Што ж будзе? Чым усё скончыцца?

— Глядзіце, глядзіце! Вунь ён. Кашалоцік нарадзіўся!

Самцы, нібы па камандзе, спынілі свой занятак і адышлі на нязначную адлегласць. Нованароджанае кіцянё, бяссільнае і бездапаможнае, ляжала на вадзе, без ніякага руху. Для таго, каб трымацца на вадзе, яму патрэбна было паветра. Праз некаторы час кіцянё пагрузілася ў ваду. Мы, затаіўшы дыханне, са страхам назіралі за падзеямі. Устрывожаная самка нырнула ў глыбіню і павольна пачала падымацца на паверхню. Людзі павесялелі.

Незабыўная карціна: маці з дзіцем на спіне. Кіцянё зрабіла ледзь прыкметны ўздых. З'явіўся першы фантанчык, затым другі, трэці. Маці асцярожна спусціла яго на ваду і паволі пайшла за статкам. Кіцянё няўпэўненымі рухамі плаўнікоў "зачыльгікала" за маці.

Запусцілі рухавікі, судна здрыганулася і лягло на зваротны курс. Развітальны гудок не давалі, каб не трывожыць мірны статак марскіх веліканаў.

Толькі вечарам выйшлі мы з трансу.

У той дзень паляванне на кітоў не пачыналі. За гэта я быў вельмі ўдзячны капітану і гарпунеру. Наперадзе былі яшчэ 225 дзён промыслу.

Дзе цяпер наш хрэснік? Калі жывы, то абавязкова — самы вялікі і прыгожы кіт. Хочацца верыць, што жывы.

**М. РАДЗІКОЎСКІ.**

# Крыжаслоў

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Тоўстая і доўгая іголка. 8. Слова, супадаючае па значэнню з іншым словам. 10. Лірычная песня венецыянскіх лодачнікаў. 11. Вялікая сціртa снапоў або саломы. 13. Стэпавая жывёліна, від антылопы. 15. Сыры, непрапечаны слой у хлебе каля ніжняй скарынкі. 17. Вясёлы гаварун, жартаўнік. 18. Той, хто валодае чым-небудзь. 19. Адчайны, немы крык як праяўленне жаху. 20. Службовая асоба праваахоўных органаў. 24. Стараннe, руплівасць. 25. Аброць без цугляў для прывязвання каня. 26. Адзін з відаў рыбалоўнай сеткі. 29. Рака ў Закаўказзі. 31. Месяц у апошняй квадры. 32. Сорт летняй яблыні. 33. Спецыяльна абсталяванае памяшканне для галення, стрыжкі і т.п. 34. Ягады, якія растуць на мохавых балотах.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Уласнік, уладальнік чаго-небудзь. 2. Рэчыва, што надае той ці іншы колер прадметам. 3. Выражэнне незадавальнення. 4. Слова, якое адмаўляе сэнс другога слова. 5. Нізкая вечназялёная кустовая расліна. 6. Пералётная птушка з зеленавага-блакітным апярэннем. 9. Калектыўная дапамога пры выкананні сельскагаспадарчых работ. 12. Знак прыпынку. 14. Войска, якое ў час вайны набіралася з шырокіх народных мас. 15. Наказ, дадзены кім-небудзь сваім паслядоўнікам або нашчадкам. 16. Кандытарскі выраб. 21. Скажэнне або недастатковая выразнасць паказанняў аптычных прылад. 22. Расліна, лісце якой багата нікацінам. 23. Вера ў тое, што некаторыя з'явы і падзеі маюць таямнічы сэнс. 27. Мужчынская статуя, якая падтрымлівае перакрыцце будынка. 28. Саюз, садружнасць. 30. Сок, які выдзяляецца хваёвымі дрэвамі. 31. Рычаг для кіравання чым-небудзь.

**Даслаў В.ВАРАТЫНСКІ.**

## Адказы на крыжаслоў змешчаны ў № 35

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1.Марал. 4.Базіс. 7.Капур. 8.Айсберг. 9.Габарыт. 12.Дрэнаж. 13.Антэна. 15.Канвент. 18.Акалот. 20.Бухта. 22.Амплуа. 24.Янг. 25."ОСТ". 26.Вынаходніцтва. 27.Сха. 29.Бот. 31.Атрута. 32.Рэнта. 33.Каляда. 35.Браслаў. 40.Таката. 41."Багема". 42."Летапіс". 44.Віскоза. 45.Ранет. 46."Ранак". 47.Каста.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1.Мастак. 2.Акруга. 3.Лаг. 4.Буг. 5.Арагон. 6.Сірэна. 8.Арэапаг. 10.Трэмала. 11."Навуходаносар". 12."Даная". 14.Адкат. 16.Штандар. 17.Паэтыка. 19.Кнехт. 20."Бахор". 21.Афіша. 23.Усход. 27.Савет. 28.Артыкул. 29.Бяспека. 30.Такса. 34.Статар. 36.Рапіра. 37.Арбіта. 39.Барока. 43.Сак. 44.Век.

